# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 45 (610) Год XII 5 ЛІСТАПАДА 1967 г. ЦАНА 60 гр.


# 50 ЗНАМЯНАЛЬНЫХ ГОД

Мінула пяцьдзесят год ад часу Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Крэйсер «Аўрора», які даў халасты сігнальны выстрал да атакі на Зімні палац, стаў сімвалам той далёкай ужо, але адначасова і блізкай, гістарычнай хвілі. Адбылося ўзброенае паўстанне пад кіраўніцтвам бальшавікоў, але няшмат хто ў тыя часы ўсведамляў сабе велізарнае значэнне гэтага факта. Бо, практычна рэвалюцыя не закончылася ў тую кастрычніцкую ноч, калі арыштавана міністраў Часовага Урада, а сам Керэнскі ўцёк у жаночым адзенні. Рэвалюцыя ўсё яшчэ адбывалася — гартавалася на франтах Грамадзянскай вайны, потым у барацьбе з пасляваеннай контррэвалюцыяй. Лёс рэвалюцыі не раз вісеў на валаску.

Сталася тое, што павінна было стацца: бальшавікі перамаглі, і Расія стала першай у свеце сацыялістычнай дзяржавай. Дзякуючы вялікім магчымасцям Расіі з аднаго боку і рэвалюцыйнай сітуацыі ў Еўропе з другога боку, маладая савецкая ўлада здолела ўмацавацца і рэалізаваць фактычнае кіраўніцтва краінай. Плады рэвалюцыі даспявалі ў мірны але цяжкі час, ва ўмовах імперыялістычнага акружэння, кардону. Не пераламалі гэтага кардону ўзнікшыя пазней — Мангольская Народная Рэспубліка і Тувінская Народная Рэспубліка, якія з прычыны сваёй неразвітасці цалкам апіраліся на падтрымцы Савецкай Расіі.

Расійская рэвалюцыя дала магчымасці для нараджэння незалежнай Польскай Дзяржавы, што адпавядала асабовасці польскага народа — і перспектывам сацыяльнай рэвалюцыі перад усім! Савецкі ўрад пад кіраўніцтвам Леніна ўступіў новастворанай Польшчы значна большыя граніцы, чым дамагалася нахабная пілсудчыкаўская дыпламатыя. Гэты факт пасля быў дакладна затоены тагачаснай польскай палітыкай — сам Пілсудскі не верыў у стварэнне незалежнай Польшчы, вёў сябе як буйны контррэвалюцыйны дыверсант; рускія генералы, з якімі пробаў наладзіць кантакты, не хацелі і слухаць нават аб аўтаноміі для Польшчы.

(Працяг на стар. 3)




НЯХАЙ ЖЫВЕ 50-ГОДДЗЕ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА!

# БГКТ

## 50-АЯ ГАДАВІНА КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

Праўленне аддзела БГКТ Сямяціцкага павета (сядзіба ў Мілейчыцах) шырока адзначае 50-ую гадавіну Вялікай сацыялістычнай рэвалюцыі. Першая акадэмія прысвечана юбілею адбылася ў Рагачах 7-га кастрычніка. У прэзідыуме акадэміі між іншым былі ўдзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі: Я. Карнэлюк, Л. Пашкоўскі, Т. Касянюк. Урачыстасць адкрыў кіраўнік школы А. Манцюк, а даклад аб значэнні Кастрычніцкай рэвалюцыі чытаў настаўнік Е. Кузьмяк.

Забіраў таксама голас Я. Карнэлюк, які расказаў прысутным аб сваім удзеле ў рэвалюцыі. На заканчэнне ўрачыстасці былі высветлены два савецкія фільмы: «Аляксандр Пархоменка» і «Аляксандр Матросаў».

*

Акадэмія з нагоды Кастрычніцкай гадавіны адбылася таксама 15 кастрычніка ў Клюковічах. Арганізатарамі яе былі: гурток БГКТ, грамадскі камітэт ПАРП і ССМ, а таксама настаўнікі мясцовай школы.

Даклад чытаў кіраўнік культурна-асветнага аддзела БГКТ Мікола Лобач. Урачыстасць закончылася выступленнем эстрады ГП «Лявоніхі». Прысутных на акадэміі было больш 200 асоб.

*

15 кастрычніка ў Вілінаве адбыўся беларускі фэстын прысвечаны 50-ай гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. Сабралася сюды шмат моладзі з навакольных вёсак. Адкрыў фэстын інструктар ГП БГКТ на Сямяціцкі павет М. Вішанка. Даклад аб 50-ай гадавіне Вялікага Кастрычніка прачытаў старшыня Сямяціцкага аддзела БГКТ А. Мартыновіч.

На артыстычную частку склаліся выступленні Вілінаўскага аматарскага калектыву, а таксама вучняў мясцовай школы.

Пасля пачалася забава на пляцоўцы, якую зрабіла моладзь пасярэдзіне вёскі.

Вечарам артыстычную частку прадаўжала эстрада ГП «Лявоніха». Агулам у гэтым мерапрыемстве ўзяло ўдзел блізка 600 асоб.

*

Апошняе пасяджэнне праўлення Сямяціцкага аддзела адбылося 14 кастрычніка ў Мілейчыцах. На ім была абгрунтавана справаздача з дзейнасці БГКТ у III квартале, а таксама зацверджаны план працы на IV квартал. Да найважнейшых пунктаў гэтага плана трэба аднесці: 1) арганізаванне далейшых урачыстасцей з нагоды 50 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, 2) арганізаванне нарады з кіраўнікамі культурна-асветных пунктаў, 3) ахапленне дзейнасцю БГКТ такіх мясцовасцей, як Мельнік, Баратынец Рускі, Крупіцы і Чорная, 4) шырэйшая прапаганда часопіса «Ніва».

**М. Вішанка**




Дыван Аляксандры Паўлючук з Рыбалаў прысвечаны 50-тай гадавіне Вялікага Кастрычніка. Шырэй на стар. 4 («Народны дар»).

## ПАДАРОЖЖА Ў МАЛАДОСЦЬ 1)




Спачатку быў тэлефон. Званілі з Таварыства польска-савецкай дружбы і пыталі, ці не хацеў бы наведаць родны інстытут. Вядома, хацеў бы! Яшчэ як! Хто адмовіўся б ад такой спакуслівай сустрэчы?

Мой родны інстытут у Маскве. Цвярскі бульвар 25. Двухпавярховы музейны асабняк, аддзелены ад вуліцы невялікім прысядзібным скверыкам. Асабняк гэты масквічы называюць «Домам Герцэна». Тут менавіта нарадзіўся вялікі рускі рэвалюцыйны дэмакрат. Але не толькі Герцэнам праславіўся гэты дом. XIX-таму стагоддзю даў ён толькі адну славутасць. У XX-тым стагоддзі з яго старэнькіх сцен выйшла цэлае сузор'е савецкіх паэтаў, празаікаў, драматургаў і крытыкаў, якія здабылі ўсесаюзную і сусветную славу. Тут ужо звыш 30-ці год існуе Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага. Рэдка, хто з сучасных савецкіх пісьменнікаў малодшага пакалення не з'яўляецца яго выхаванкам.

Пагодным вераснёвым днём з чамаданам у руках стаяў я перад адчыненымі дзвярыма сваёй Alma Mater і ад хвалявання не рашаўся пераступіць яе парогаў. Апошні раз выйшаў я з іх 13 год таму назад. Шмат чаго змянілася за гэты час у свеце і, напэўна, у маім інстытуце таксама. Перш за ўсё, прыйшлі новыя людзі. Яны цябе не ведаюць. Ты для іх чужы. У найлепшым выпадку — госць, якім трэба апекавацца і які праз гэта дастаўляе лішніх клопатаў.

Маю збянтэжанасць рассеяў гаманлівы народ — студэнты, якія высыпаліся з будынка на панадворак. Відаць, перапынак. У нашым інстытуце калідорчыкі цесныя і ў час перапынку студэнты выходзяць на панадворак. Гэтак сама і я пяць год выходзіў сюды са сваімі сябрамі.

Колькі тут адбылося нявырашаных спрэчак! Якіх тут толькі аўтарытэтаў не скідалі мы з высокіх п'едэсталаў! Якія мы тут былі бескампрамісныя і дужыя!

Углядаючыся ў групкі раздыскутаваных студэнтаў, якія запоўнілі герцэнаўскі скверык, мне здалося, што многіх з іх я пазнаю, што я нікуды не выязджаў, што я проста спазніўся на заняткі і мне трэба ісці да начальства і вытлумачыцца перад ім за спазненне.

Дарэмная насцярожанасць, беспадстаўныя ваганні. Рэктар, з якім я сустрэўся ўпершыню, прыняў мяне як свай-

(Працяг на стар. 3)

# Фестываль савецкіх фільмаў

**20 КАСТРЫЧНІКА — 19 ЛІСТАПАДА 1967**

11 новых фільмаў увайшло на экраны. А ўвогуле фестываль прысвячаецца 50 Гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі і з'яўляецца адным з галоўных культурных мерапрыемстваў у краіне і на Беласточчыне.

На Беласточчыне для падкрэслення рангі Фестывалю паклікана Ганаровы Камітэт святкавання 50-цігоддзя Савецкага кіно. Старшынёй камітэта выбраны старшыня Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народа, пасол у Сейм ПНР **Станіслаў Юхніцкі.**

Сярод новых фільмаў — дзве часткі манументальнага твора **Сяргея Бандарчука** «Вайна і мір». Часткі: I — Андрэй Балконскі, II — Наташа Растова.

**Далей убачым** савецка-польскую «Зосю» з Поляй Раксай у галоўнай ролі. Іншыя: дзве карціны пра сенсацыйныя прыгоды легендарнага героя Кастрычніцкай рэвалюцыі «Кама» — вядомы асабіста» і «Кама — небяспечная місія».

Сярод дваццаці найлепшых паўтарэнняў маем: «Панцэрнік Пацёмкін», «Бура над Азіяй», «Чапаеў», «Свет смяецца», «Дэлегат флота», «Мы з Кранштату», «Ляцяць жураўлі», дзве серыі «Ціхага Дона», «Чыстае неба».

Арганізатары Фестывалю на Беласточчыне выдалі спецыяльную серыю фестывалёвых марак тыражом 500 тыс. штук. Маркі гэтыя будуць дадавацца бясплатна да кожнага білета на савецкія фільмы. Купоны пры марках прымуць потым удзел у лясаванні ўзнагарод: матацыкл ВФМ, магнітафон, веласіпед, палатка, радыё на транзістарах, фотаапарат, гадзіннік, адаптар і многа іншых.

Маркі вельмі прыгожыя, выдрукаваны ў пяці колерах: чырвоным, зялёным, сінім, жоўтым і фіялетавым.

На марцы на фоне сцэн з «Вайны і міра» бачым галаву актрысы **Савельевай** — галоўная роля Наташы ў фільме і надпіс па-польску: «Фестываль Савецкіх Фільмаў — Беласток 1967».

Праект маркі выканала вядомая варшаўская мастачка **Г. Матушэўская,** яна ж аўтар прыгожай серыі дажынкавых паштовых марак.

Для школьнай моладзі сярэдніх школ разам з Куратарыумам арганізуецца конкурс. Ваяводскі квіз павядзе вядомы з тэлевізійнай вялікай гульні **Рышард Сэрафіновіч.**

**Выйшла таксама спецыяльная аднадзённая** газета аб савецкім кіно і Фестывалю.

135 кіно ў ваяводстве дэманструе савецкія фільмы. Для выгоды гледача ўведзены папярэдні продаж білетаў для школ, арганізацый і ўстаноў.

Карнеты і зборныя білеты прадаюцца па абніжанай цане. **(вл)**

**ПЛЕЯДА САВЕЦКІХ КІНАЗВЕЗД**


Таццяна Самойлава


Васіль Ланавой


Ірына Скобцава


Міхаіл Ульянаў


«Нападзенне Чорнага князя».


«Чалавек, якога люблю»

# 50 ЗНАМЯНАЛЬНЫХ ГОД

**(Працяг са стар. 1)**

Мы — беларусы — ведаем, што менавіта Ленін усім сваім аўтарытэтам кіраўніка Расійскай рэвалюцыі правёў права Беларусі да самастойнага дзяржаўнага быту — і асабіста Ён апрацоўваў указанні ў гэтай справе. Калі 1 студзеня 1919 года апавешчана ў Мінску стварэнне Беларускай рэспублікі Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт прыняў наступную пастанову:

**«Зыходзячы з прынцыпа поўнага і сапраўднага самавызначэння працоўных мас усіх краін, Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта прызнае незалежнасць Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі».**

Упершыню ў гісторыі ўзнікла Беларуская Дзяржава, якая падпісала ваенна-палітычны пакт з Савецкай Расіяй, а ў 1922 годзе, як суверэнная дзяржава, была раўнапраўным ініцыятарам стварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Нягледзячы на ўсе хібы пазнейшай палітыкі факт застаецца фактам: беларуская гаспадарка і культура ніколі дагэтуль не мелі такіх вялікіх магчымасцей свайго развіцця. Палітыка на ўмацаванне беларускай дзяржаўнасці вызваліла дарэшты творчыя сілы народа, — пераўтварыла яго ў сучасную нацыю, перапоўненую творчым патрыятызмам і належным пачуццём людской годнасці. І сталі беларусы **«людзьмі звацца»,** аб чым так горача марыў вялікі Янка Купала, калі беларускую зямлю таптаў яшчэ царскі бот.

Прамінула пяцьдзесят год ад выбуху Расійскай рэвалюцыі — і яе перамога сталася нашай перамогай, перамогай усіх тых, каму дарагое дабро народа.

Гэта пяцьдзесят знамянальных год у жыцці чалавецтва.

Падарожжа ў маладосць

# У РОДНЫХ СЦЕНАХ

**(Працяг са стар. 1)**

го добрага знаёмага і прасіў чуцца ў інстытуце, як у сябе дома. Дык хадзіў я з аўдыторыі ў аўдыторыю, з семінара на семінар, сустракаўся з прафесарамі, пасябраваў са студэнтамі.

Пытанні, успаміны, пытанні... Дзе жывеш? Што робіш? А сяброў не забыў? Слаўныя былі хлопцы. Цяпер не тое? Не тое. Час іншы. Моладзь іншая. Тады былі франтавікі. Вось іменна. А помніш Перадзелкіна? А як жа! Папаездзілі. Так, інтэрнат быў дваццаць пару кіламетраў за Масквой. А цяпер у горадзе. Так? А па колькі вас было ў пакоі? Было і па дзесяць. Не можа быць. Люксусам быў пакой чатырохасабовы. Фю! Гэты люксус мелі студэнты апошняга курса. А цяпер на першым дамагаюцца пакоя на аднаго. А жывуць па колькі? Па двух. Так, часы мяняюцца. Народ мяняецца.

Не прыкмячаеш, як ты вырас у легенду. У вачах студэнтаў свецяцца іскры зайздрасці. Яны зайздросцяць мне!

Ведаў Бакланава? Яшчэ б, быў старшынёй прафкома. А Цендракова, Салаухіна? Жылі ў суседнім пакоі. А ведаеш, што Бондараў у «Цішыне» паказаў наш інстытут? Дагадваўся. Вось былі хлопцы.

Так, цудоўныя былі хлопцы. Толькі тады не былі яны яшчэ Бакланавымі, Цендраковымі, Салаухінымі, Бондаравымі. Сталі імі куды пазней. Хто ведае, ці наступныя пакаленні студэнтаў не будуць зайздросціць вам.

Перакідваемся на сучасных польскіх паэтаў. Шкадую, што не ўзяў з сабою журнала «Паэзія». Напамяць, на жаль, нічога не помню. Тлумачу, што ў нас сучасных паэтаў не завучваюць. Не вераць. Становішча ратуе крыху альманах **«Белавежа»,** які маю з сабою.

Беларускія паэты ў Польшчы? Цікавасць кур'ёзная. Больш дэталёва аб беларусах у Польшчы гавару на беларускай групе (ёсць тут такая). Але яны аб нас ужо шмат ведаюць: чытаюць «Ніву», а з выкладчыкам беларускай мовы маем нават у Беластоку супольных знаёмых. Адчуваю, якая малая наша зямля. І куды больш на ёй сябраў, чым ты думаў.

Мая запісная кніжка запаўняецца тэлефоннымі нумарамі. Гэта тэлефоны маіх колішніх сябраў. З кожным хочацца сустрэцца, пагаварыць, праверыць, што засталося з нашай студэнцкай дружбы, якая мацавалася ў старэнькіх сценах «Дома Герцэна», якая здавалася нам быць вечнай.

**Г. Валкавыцкі**

# фальклор

**ПАД ЗЯЛЁНЫМ ГАЕМ**

Ой, пад гаям, гаям,
Гаям зялёненькім.
Там арала дзяўчынонька
Волікам чарненькім.

Арала, арала,
Не ўмела гукаці.
Намаўляла казака
На скрыпцы іграці.

Казак той іграе,
Очамі маргае.
А Бог знае, Бог ведае,
На што спаглядае.

Ці на мое вочы,
Ці на мое коні,
Ці на мое белы лічка,
Ці на чорны бровы.

Маю чорны бровы,
Таму не жанюся.
Пайду, пайду да рэчанькі,
З жалю утаплюся.

Не тапісь казачэ,
Бо душу загубіш.
Едзем, едзем звінчаемся,
Калі верна любіш.

Заехалі вінчацца,
Папа няма дома.
Ці тваё няшчасце,
Ці мая нядоля.

Запрагай казачэ
Каня варанога.
Паедзем да шлюбу
Да папа другога.

Запісана **Лідаю Панасюк** у вёсцы Плёскі, Бельскага павета.

Л. ВАРАБЕЙ Л. РАМАНЮК

# МІР НАМ ПАТРЭБЕН

ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VI КЛ.

### САЛІГОРСК

Салігорск? Але ж такога горада на Беларусі не было! Так, не было. А цяпер — ёсць. І жывуць у ім шахцёры.

Беларускі шахцёр... Зусім нядаўна гэта гучала б не менш дзіўна, чым полацкі нафтавік. А сёння слава шахцёраў Салігорска ідзе па ўсёй рэспубліцы і далёка за яе межамі. Толькі здабываюць яны не каменны вугаль, не жалезную руду, а мінеральную соль, вельмі патрэбную, каб павысіць ураджайнасць палёў.

У даўно мінулыя часы старыя людзі на Палессі расказвалі легенду пра злога чарадзея, які нібыта схаваў недзе глыбока пад зямлёй незвычайны скарб. Варта адшукаць гэты скарб, падняць яго з падземных нетраў на паверхню — і адбудзецца цуд. Зямля, як ніколі, стане ўрадлівай. Небывалым цяжарам налюцца каласы ў палях і плады ў садах...

Савецкія геолагі яшчэ да вайны спрабавалі адшукаць цудоўны скарб. Яны ведалі, што не чарадзей схаваў яго ад людскіх вачэй. Але ж і легенда не магла нарадзіцца сама па сабе. Дыму без агню, як вядома, не бывае. Пасля вайны пошукі аднавіліся. І вось падземны скарб знойдзены!

Пад Старобінам выяўлены велізарныя залежы спажыўной і калійнай солі. Яе запасы налічваюцца мільярдамі тон!

Услед за разведчыкамі зямных глыбінь на Старобіншчыну прыехалі будаўнікі. У летні пагодны дзень яны паклалі першы камень у падмурак першага цаглянага будынка першага на Беларусі горада шахцёраў. Тут будуць здабывацца горы солі. Таму горад і названы Салігорскам.

Такіх гарадоў яшчэ не ведала беларуская зямля. Адразу кідаюцца ў вочы высокія капры* над шахтамі. На капрах — чырвоныя зоркі. Яны не гаснуць ні ўдзень, ні ўночы. Гэта значыць, што шахцёры выконваюць і перавыконваюць заданні.

Шахты абсталяваны па апошняму слову сучаснай тэхнікі. У іх хапае і святла і свежага паветра.

Разумныя машыны выконваюць тое, на што раней спатрэбіліся б тысячы рабочых. І робяць значна спарней. Яны здабываюць і апрацоўваюць соль, надаюць ёй тую жыватворную сілу, якая так неабходна раслінам.

Шмат робяць у шахтах машыны. Але кіруе імі чалавек. І нічога б тут, вядома, не было без рабочых, без шахцёраў. Вось ідуць яны ў брэзентавых спяцоўках*, з лямпачкамі ў руках, каб змяніць сваіх таварышаў, якія зараз падымуцца з шахты. Прафесія шахцёра стала на Беларусі адной з самых пачэсных.

Салігорская калійная соль, апрацаваная на першым камбінаце, ужо ідзе на палі рэспублікі. А побач з першым камбінатам пабудаваны другі, будуецца трэці. Разам яны будуць даваць краіне мільёны тон калійных угнаенняў.

Недалёка той час, калі цяжкавагавыя эшалоны бясконцым патокам павязуць скарб палескай зямлі ў суседнія вобласці Расійскай Федэрацыі, у Прыбалтыку, у братнюю Польшчу. Працоўныя саюзных рэспублік і краін народнай дэмакратыі памагаюць беларускаму народу хутчэй уводзіць у строй новабудоўлі камунізма. І працоўныя Беларусі рады падзяліцца з імі сваім багаццем.

**Віталі Вольскі**

З кнігі «Старонкі нашай гісторыі»

I. Якое значэнне для народнай гаспадаркі Беларусі будзе мець калійны камбінат у Салігорску?

2. Звярніце ўвагу на тое, як абсталяваны камбінат?

3. Куды накіруецца ў будучым калійная соль з Салігорска?

**СЛОЎНІК**

Капёр — прыстасаванне для пад'ёму грузаў з шахты.

Спяцоўка — спецыяльная аддзежа для работы, звычайна ў выглядзе курткі.

# Народны дар

Асаблівы і багаты свой дар прынасіць 50-тай гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі **Аляксандра Паўлючук** з вёскі Рыбалы, у Бельскім павеце, жанчына год 60.

Ніхто ёй нічога не падказваў, не даваў узору. Сама спрала воўну. Пафарбавала ніткі, выбрала ўзор, выткала дыван.

Зялёна-апельсінавага колеру, вытканы ён на звычайных кроснах, двухасновавы. Па баках народныя матывы.

Усё поле заняла аповесць аб рэвалюцыі. Тут бачым высмукляя вежы Крамля, сцяг з надпісам «Мір народам». Чытаем аб партыі Леніна і аб 50 гадавіне Вялікага Кастрычніка. Унізе меншымі літарамі ўласныя даныя: месца і год нараджэння, год выканання падарунка.

Свой дар Аляксандра Паўлючук злажыла ў Ваяводскім праўленні ПЦК у Беластоку.



Аўтар дывана. (вл)



# ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

**Што навага?**

Асеннія месяцы прынеслі новы ўзрост зацікаўлення конкурсам. Новыя купоны атрымалі мы з Міхалова ў Беластоцкім павеце — 12 штук, Фастаў у Беластоцкім павеце — 8 штук, Ласінян у Сакольскім павеце — 4 штукі.

Павятовая бібліятэка ў Сямяцічах прыслала са свайго павета 11 купонаў, галоўным чынам з Клюкавіч і Тымянкі. Дзякуем усім. Яшчэ ёсць крыху часу, чакаем яшчэ!

**Хто што сказаў?**

**АНДРЭЙ МАЗАЛЕЎСКІ**
**Хільмоны**, Дубровскі пав.
гаспадар, 60 год
Прачытаў:
**І. Мележ «Людзі на балоце»**
**П. Трус «Вершы»**
**К. Крапіва «П'есы»**

«Колькі б я не чытаў беларускіх кніжак, я не знайшоў ніводнай нецікавай ці нуднай. На мой погляд гэта таму, што прадстаўляюць яны рэалістычна жыццё. Няма тут нічога выдуманага. Мы, старыя людзі, самі ўсё гэта часткова перажывалі. Я многа чытаў кніжак на польскай і рускай мовах, але беларускія stаўлю на першае месца».

**АНАФІСІЯ БАРУТА**
**Плёскі**, Бельскі павет,
вучаніца, 16 год.
Прачытала:
**П. Броўка «Вершы і паэмы»**
**У. Карпаў «Вясеннія ліўні» і «Сарочы лес».**

«Выбраныя творы мне вельмі падабаліся. Вершы і паэмы Броўкі паказваюць нам справы блізкія кожнаму чалавеку. Чытаючы іх бачым дні і карціны вайны, людзей адданых добрай справе. Але не толькі. Вось верш «Мяцеліца» — апісанне мяцеліцы. Усё стаецца жывым: і вецер у камінах дамоў, і белае поле пад пуховай коўдрай. Людзі выступаюць і ў «Вясенніх ліўнях» — розныя людзі: добрыя і дрэнныя. Чытаючы гэты раман я заўсёды цікавілася, аб чым будзе на наступнай старонцы. Падабаліся мне ўчынкі Лёдзі».

**ГЕОРГІ ГРЫГАРУК СЫН Г.**
**Галады**, Бельскі павет
Гаспадар, 26 год.
Прачытаў:
**Я. Купала «Курган»**
**Я. Колас «У Палескай глушы»**
**З. Бядуля «Салавей».**

«Выбраныя творы мне падабаліся. У «Кургане» найбольш мяне зацікавіла адвага гусляра. Ён выступіў супроць паноў песняю. Сымон з «Салаўя» зноў не хацеў сваім голасам цешыць пана і, парваўшы на сабе адзежу, сказаў: не хачу быць панскім салаўём».

**ВЕРА СІДАРУК**
**Трасцянка**, Гайнаўскі павет
Сялянка, 33 гады
Прачытала:
**Я. Колас «Рыбакова хата»**
**Я. Колас «На ростанях»**
**З. Бядуля «Салавей».**

«Прачытаныя творы мне вельмі падабаліся. Па-першае — напісаны на роднай мове, па-другое — аўтары адлюстроўваюць тут жыццё простых сялян — змагароў за лепшае жыццё і за свабоду роднай краіны».

**БЕЛАРУСІЯНА**

*„Wiadomości o rodzinie Kościuszków Siechnowickich, herbu Roch III, sięgają XVI wieku. Z pochodzenia Białorusini, wywodzili się od pisarza króla Zygmunta I, Konstantego, zwanego Kostiuszką, Fedorowicza,* (Косця, Косценька, Косцюшка) *horodniczego w Kamieńcu nad Bugiem, męża Hanny z ruskich kniaziów Holszańskich. Polonizacja rodu dobiegła kresu w drugiej połowie XVII w., kiedy pradziad Tadeusza, Jan Aleksander, podsędek brzeskolitewski, w rodzinnej wiosce Siechnowiczach pod Brześciem wybudował kaplicę rzymskokatolicką. Tadeusz zachował poczucie związku z ludem ruskim, stale podpisywał się „Kosciuszko"; niekiedy jako mieszkaniec Wielkiego Księstwa Litewskiego nazywał się Litwinem"...* піша *Juliusz Willaume* на старонках люблінскага часопіса «Камэна», у нумары 19 ад 15 кастрычніка г.г. «Камэна» змясціла цікавую публікацыю з нагоды 150-годдзя з дня смерці вялікага палкаводца і палітычнага дзеяча, Тадэвуша Касцюшкі. Аўтар публікацыі канстатуе, што апошні кароль Польшчы, Станіслаў Аўгуст, таксама выводзіцца з беларускіх земляў — з Волчына на Брэстчыне.

# У 150-тую ГАДАВІНУ СМЕРЦІ Т. КАСЦЮШКІ

Тадэвуш Касцюшка нарадзіўся 4 лютага 1746 года ў арандаваным фальварку **Мерачоўшчына** пад Слонімам. Ён, безумоўна, ведаў беларускую мову і, як сцвярджаюць некаторыя гісторыкі, паслугоўваўся гэтай моваю ў сваёй дзейнасці — асабліва, у палітычнай дзейнасці.

Усё гэта варта сабе ўсведаміць пры аказіі адзначаемай гадавіны. Тадэвуш Касцюшка, нацыянальны герой Польшчы і палякаў, з'яўляецца яркім сімвалам даўно існаваўшых братніх сувязей паміж абодвума народамі. Касцюшка, падымаючы рэвалюцыйнае ўзброенае паўстанне ў Польшчы, меў на ўвазе вызваленне з галечы і беднасці таксама і беларускі люд, сярод якога вырастаў, і аб якім заўсёды памятаў. Касцюшка быў прыхільнікам усенароднага паўстання, гаварыў ён, што не хоча змагацца за інтарэсы шляхты. У слынныя дні бітвы пад Рацлавіцамі Касцюшка дыспанаваў ужо 150-тысячнай арміяй, якая складалася з сялян — касынераў. Стварыў тэорыю народнай вайны, шырыў культ касы і пікі, як зброі. За сваю вялікую прыхільнасць да ўсяго беднага люду даўній Рэчыпаспалітай выклікаў недавер з боку афіцэрства і ліберальнага абшарніцтва, якое горш баялася паўстання мужыкоў і стварэння «мужыцкай Польшчы», чым захопніцкіх войскаў царскіх і прускіх у гэтай жа Польшчы.

Не маючы добрага штабу і разведкі не змог належна пакіраваць так вялікай вайною — і прайграў. Але быў гэта толькі мілітарны пройгрыш. Ідэя Касцюшкі ўваскрэсла.

**С. Яновіч**

# Кніга палякаў — удзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі

Падрыхтаваў яе калектыў Інстытута гісторыі партыі Цэнтральнага Камітэта ПАРП у Варшаве, а надрукавала выдавецтва «Кніжка і веды». Гэта вялікая кніга, амаль 1000 старонак, а на кожнай — кароткія аўтабіяграфічныя звесткі пра палякаў, удзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Амаль 7700 прозвішчаў. Выводзіліся яны з розных асяроддзяў, найчасцей з рабочага і сялянскага, і з розных, амаль усіх, раёнаў цяперашняй і даваеннай Польшчы.

Аўтары правільна засцерагаюцца, што не змаглі ў сваёй «Кнізе» змясціць звесткі пра ўсіх польскіх грамадзян, удзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Паводле архіўных дадзеных Польскага Бюро Цэнтральнага Камітэта РКП(б) у 1920 годзе ў радах расійскай кампаніі налічвалася каля 18 000 палякаў. Але ж не толькі партыйныя змагаліся за ўладу Саветаў. Значыць, было іх шмат больш. Успомнім толькі пра некаторых, найбольш заслужаных: **Фелікс Дзяржынскі** член ЦК партыі бальшавікоў. Членам Сакратарыята ЦК быў **Браніслаў Весялоўскі, Станіслаў Пэсткоўскі** быў членам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саветаў, які з'явіўся першым рэвалюцыйным урадам. **Станіслаў Косёр і Фелікс Кон** уваходзілі ў склад ЦК кампартыі Украіны. **Рамуальд Муклевіч**, які нарадзіўся ў Супраслі пад Беластокам, камандаваў чырвоным ваенным марскім флотам, **Браніслаў Бартноўскі** быў членам Генеральнага Штаба Чырвонай Арміі. **Язэп Уншліхт і Станіслаў Месінг** супольна з Дзяржынскім кіравалі працай ВЧК. У дыпламатыі маладой Савецкай Рэспублікі працавалі **Юльян Мархлеўскі, Караль Радэк, Павел Лапінскі і Вацлаў Вароўскі**. Народным камісарам унутраных спраў Савецкай Беларусі быў Станіслаў Мэртэнс. Чырвоных партызан, якія ваявалі на Беларусі з нямецкім акупантам, узначальваў Адам Качароўскі-Славінскі. Членам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саветаў Крыма быў Ян Тарвацкі. Савет Народных Камісараў Туркестана ўзначальваў Уладзіслаў Фігельскі.

У баях за рэвалюцыю выраслі пазнейшыя выдатныя дзеячы і праваднікі кампартый Польшчы, Беларусі і Украіны, як Юльян Ляшчынскі-Ленскі, Лазар Аронштам, Аляксандр Данілюк, Сцяпан Крулікоўскі, Эдвард Прухняк, Тадэвуш Жаркі і іншыя.

Сваіх землякоў, якія нарадзіліся на Беласточчыне, далічыліся мы ў гэтай «Кнізе» звыш 100 чалавек. У сапраўднасці было іх больш. А вось некаторыя: Канстанцін Вараноўскі з Гарадка, член Петраградскага Савета Дэпутатаў Рабочых і Салдацкіх. Уладзіслаў Бернацкі, рабочы з вёскі Якубоўскае ў Бельскім павеце, арганізаваў чырвоную міліцыю ў час петраградскага паўстання, затым займаў адказныя пасады ў Петраградзе, між іншым быў членам Губерскага Рэвалюцыйнага Трыбунала. Аляксандр Баркоўскі з Сямяціч, член Петраградскага Савета Дэпутатаў Рабочых і Салдацкіх, Язэп Бужынскі з Бельска займаў высокія пасады ў прамысловасці. Міхаіл Грыгарук з вёскі Кавалёўка ў Беластоцкім павеце, удзельнік кастрычніцкага паўстання ў Маскве. Аркадзь Коган з Беластока, удзельнік пётраградскага кастрычніцкага паўстання. Уладзімір Косміч з Беластока, арганізатар камітэтаў беднаты ў Тамбоўскай губерні. Уладзіслаў Кулакоўскі з Крынак быў камандзірам завадскога атрада Чырвонай Гвардыі, штурмаваў Зімні палац. Саламон Мілер з Кнышына ў Беластоцкім павеце, член ЦК КП(б) Беларусі. Аляксей Рошчанка з Дашоў у Гайнаўскім павеце, чырвонагвардзеец, ваяваў у Тамбоўскай губерні. Мікалай Саевіч з вёскі Зверынец у Беластоцкім павеце, удзельнік петраградскага паўстання, работнік ВЧК. Ян Шыдлоўскі з вёскі Беляны ў Сакольскім павеце, курсант аб'яднанай школы Чырвоных Камунардаў. Міхаіл Таруняк з Драгічына ў Сямяціцкім павеце, рабочы пуцілаўскага завода, актыўны ўдзельнік лютаўскага і кастрычніцкага збройных паўстанняў. Ціхан Трафімюк з Кленікаў у Гайнаўскім павеце ваяваў на некалькіх франтах, між іншым падчас славутай абароны Царыцына (Волгаград). Аляксандр Вашкевіч з Белавежы, камандзір Чырвонай Арміі, герой Савецкага Саюза. Канстанцін Зубрыцкі з Беластока, чырвоны партызан на Браншчыне.

Як бачым «Кніга» падае факты і толькі факты. Без ніякіх агаворак. На жаль, выйшла яна невялікім тыражом і нямнога людзей зможа атрымаць яе.

**Віктар Рудчык**

 

# ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ



Помнік партызанам

Фота: Р. Сенька



Выступае былы партызан Раман Мордань з Валіл.

Фота: М. Х.

Шуміць Ліпніцкі лес. Голасна гамоняць яго сосны быццам успамінаюць падзеі, якія адбыліся тут у грозны час нямецкай акупацыі. Лепшыя сыны беларускіх вёсак у раёне Ліпніцкага лесу, а перш за ўсё былыя КПЗБ-оўцы з савецкімі салдатамі, якія скрыліся тут у час нямецкага нашэсця, арганізавалі першыя на Беласточчыне пачаткова групы а потым партызанскія атрады. Тут нарадзіўся атрад імя Кастуся Каліноўскага, камандзірам якога быў Аляксей Карпюк са Страшава, які зараз жыве ў Гродне.

Сцежкі і дарожкі Ліпніцкага лесу былі шляхам у Белавежскую пушчу. Лес гэты быў сховішчам, прытулкам і прыстанішчам для соцен партызанскіх груп, якія выконвалі дыверсійныя заданні. Тут першую сваю стаянку меў штаб партызанскай брыгады імя Кастуся Каліноўскага, якою камандаваў палкоўнік Мікалай Вайцяхоўскі. Тут у сутычках з нямецкім акупантам загінула гераічнай смерцю шмат партызан, у тым ліку і камандзір атрада імя «Бацькі» савецкі лейтэнант Дзімітр Новікаў і мясцовы партызан (з вёскі Скраблякі) з атрада імя К. Каліноўскага Аляксандр Янкевіч.

Усім гэтым партызанам грамадскасць Беластоцкага павета пры шашы Беласток — Баброўнікі ў Ліпніцкім лесе ўзнясла помнік, які быў адкрыты напярэдадні 50-ай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі (22-га кастрычніка).

Помнік у Ліпніцкім лесе з'яўляецца сімвалам супольна пралітай крыві савецкіх людзей і жыхараў Беластоцкага павета. А дзе чалавек праліў кроў, дзе вёў няроўны смяротны бой з ворагам, тыя мясціны заўсёды дарагія, заўсёды прыцягваюць. Вось таму на ўрачыстасць адкрыцця помніка сабралася шмат былых партызан з Беластоцкага павета. Аб гераічнай смерці загінуўшых партызан узрушана расказвалі былыя партызаны Дзімітр Карповіч і Раман Мордань. З магіл загінуўшых людзей у Беластоцкім павеце была ўзята зямля і пад рокат барабанаў вайсковага аркестра ўзложана ў каменнай брыле помніка дэлегацыямі гэтых мясцовасцей.

Да слёз хвалюючыя былі тыя хвіліны, калі старэнькая маці партызана Аляксандра Янкевіча, выціраючы хусткай вочы, паклала кветкі ля помніка-абеліска. Кветкі, жывыя кветкі і вялікія вянкі паклалі таксама прадстаўнікі шматлікіх устаноў і прадпрыемстваў Беластоцкага павета, а таксама дэлегацыя з суседняга Бераставіцкага раёна.

У сэрцах людзей, як па адным так і па другім баку дзяржаўнай граніцы, будзе вечна жыць памяць аб тых, хто аддаў сваё жыццё за свабоду нашых народаў, за нашае жыццё.

**Міхась Хмялеўскі**



Дэлегацыя з Бераставіцкага раёна нясе вянок.

Фота: М. Х.

# „НІВА" І ПІСЬМАНОСЦЫ

У кастрычніку значна павялічылася колькасць падпісчыкаў «Нівы». І так, у верасні ў Гайнаўскім павеце мелі мы 1993 падпісчыкі, а ў кастрычніку налічвалася іх 2548. У Бельскім павеце ў кастрычніку стала іх на 435 больш і акрэсліваюцца яны лікам 1645. Значна ўзрасла таксама падпіска ў Беластоцкім, Сакольскім, Сямяціцкім і Дуброўскім паветах. Да павелічэння падпіскі нашага штотыднёвіка прычынілася таксама добрая прапагандавая праца пісьманосцаў, якія знаходзяцца ў гушчы мас і заахвочваюць беларусаў да чытання часопіса на роднай мове.

18 кастрычніка ў Польшчы адзначаецца «Дзень сувязі». У сувязі з гэтым найлепшым пісьманосцам у прапагандзе «Нівы» наша рэдакцыя прызнала рэчавыя ўзнагароды. А вось іх прозвішчы: Уладзімір Весялоўскі і Яўгень Весялоўскі з Пасынак, Уладзімір Гуралеўскі з Рыбалаў, Станіслаў Капэля з Храбалаў, Аляксандр Сахарчук з Кленік, Міхась Гацута з Новаберазова, Аляксандр Стоцкі з Семяноўкі, Пётр Бялькевіч са Старога Корніна, Кастусь Каліноўскі са Старога Ляўкова, Мікалай Паланкевіч і Уладзімір Андрэюк з Трасцянкі, Мікола Лясота з Нараўкі, Юльян Шатыловіч з Чаромхі, Лявон Ясюкевіч з Гарадка, Мікалай Бобка з Крушынян, Казімір Стыпінскі і Макар Тэрабун з Клюкавіч. Некаторыя з гэтых пісьманосцаў дабіліся вельмі высокай колькасці падпісчыкаў. Падаем іх дасягненні: Уладзімір Весялоўскі мае 170 падпісчыкаў «Нівы», Уладзімір Гуралеўскі — 157, Пётр Бялькевіч —151. Аляксандр Сахарчук — 141, Станіслаў Капэля 134, Міхась Гацута — 125, Аляксандр Стоцкі — 124 і г.д.

18 кастрычніка з нагоды Дня сувязі павятовае кіраўніцтва поштаў Гайнаўшчыны арганізавала акадэмію спалучаную з вечарынай. Апрача працаўнікоў акруговага праўлення пачтова-тэлекамунікацыйнага, узялі ў ёй ўдзел начальнікі ўсіх 18 пошт Гайнаўшчыны, а таксама найлепшыя пісьманосцы.

На гэтай урачыстасці прадстаўнік рэдакцыі «Нівы» Міхась Хмялеўскі сардэчна павіншаваў працаўнікоў пошты і ўручыў узнагароды. М.С.




## ФРАНЦІШАК СКАРЫНА

У канцы XV і на пачатку XVI стагоддзяў пачаўся на Беларусі буйны росквіт гарадоў. Штораз болей сярод самых вялікіх і багатых з іх здабывалі ад вялікага князя правы на самакіраванне па магдабургскаму праву. Магдабургскае права спрыяла эканамічнаму развіццю гарадоў і абмежаванню ў іх уціску феадаламі гарадскога насельніцтва.

Адначасова з развіццём рамяства, гандлю і пашырэння гандлёвых і палітычных сувязей з іншымі краінамі павялічвалася зацікаўленне асветай, асабліва сярод гарадскога насельніцтва. Школы паўставалі не толькі пры царквах і манастырах, іх засноўвалі таксама добрачынныя арганізацыі гараджан — брацтвы. Хоць у кожнай школе вучылася не больш дзесяці — дваццаці вучняў, а навука працягвалася ад 1 да 3 гадоў, школы выдатна спрыялі пашырэнню граматы і развіццю культуры на беларускіх землях.

Адным з выдатных дзеячоў навукі, асветы і культуры ў Беларусі быў Францішак Скарына. Нарадзіўся ён каля 1490 года ў Полацку ў сям'і багатага купца. У сваім родным горадзе атрымаў Скарына грунтоўную пачатковую адукацыю. Затым выехаў на далейшую вучобу ў Кракаўскі універсітэт у Польшчы, а пасля яго заканчэння ў Падуанскі універсітэт у Італіі. У Падуанскім універсітэце ён з вялікім поспехам здаў экзамены на вучоную ступень доктара медыцыны, выказваючы пры гэтым валоданне глыбокімі і абшырнымі ведамі.

Пасля заканчэння адукацыі Скарына ўсяцэла прысвяціў сябе справе наладжання друкавання кніг на беларускай мове. Ён заснаваў у чэшскай Празе беларускую друкарню і ў 1517 годзе выпусціў у свет першыя беларускія друкаваныя кнігі. Кіраваў ён іх «людзям простым для добрай навукі».

Хоць друкаванне кніг у Празе адбывалася вельмі паспяхова, і беларускі першадрукар карыстаўся сярод чэхаў прыхільнасцю і добразычлівасцю, аднак ён імкнуўся быць бліжэй да родных мясцін. Ён перавёз з Прагі ў сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, горад Вільню, сваю друкарню і там працягваў сваю друкарскую дзейнасць.

У хуткім часе кнігі Скарыны пашыраюцца па ўсяму Вялікаму Княству Літоўскаму і вандруюць у іншыя краіны. Усюды яны з'яўляюцца не толькі ўзорам дасканалай тэхнікі кнігадрукавання, але і прыкладам ахвярнага служэння адукаванага чалавека свайму народу.

Скарына прызначаў свае кнігі простаму народу. У прадмовах да іх ён раіў чытачу шукаць у кнігах навуковых звестак і праўды для адукавання самога сябе. Ён пісаў, што «без мудрасці і без добрых звычаяў нельга пачціва жыць простым людзям на зямлі». Паводле Скарыны, кожны чалавек павінен жыць не толькі для самога сябе, ён сваёй дзейнасцю абавязан як мага болей прыносіць карысці свайму народу, бо «не толькі самі сабе нараджаемся на свет», але перад усім для «агульнага дабра». Беларускі першадрукар заклікаў, каб людзі «ўсякай працы і багаццяў для агульнага дабра і для айчыны свае не шкадавалі».

Скарына горача любіў сваю радзіму. Ён пісаў: «Так як звяры, блукаючыя ў пустыні, знаюць логавы свае, птушкі, лётаючыя ў паветры, ведаюць гнёзды свае, рыбы, плываючыя ў моры і ў рэках, чуюць віры свае, пчолы і ім падобныя бароняць вулляў сваіх, так і людзі, дзе нарадзіліся і выгадаваліся, да таго месца вялікую любоў захоўваюць».

Скарына карыстаўся вялікім аўтарытэтам і пашанай не толькі ў Вялікім Княстве Літоўскім, але па-за яго межамі. Яго запрашаў да сябе прускі герцаг, называючы яго «мужам непараўнанага розуму, найвучонейшым доктарам мастацтваў і медыцыны». Чэшскі кароль запрасіў Скарыну на свой двор і даручыў яму абавязкі каралеўскага батаніка і медыка.

Памёр Скарына каля 1540 года ў Празе.

Дзейнасць беларускага першадрукара зрабіла магутны ўплыў на далейшае развіццё беларускай культуры і прычынілася да ўмацавання сувязей паміж славянскімі народамі.

*ПЫТАННІ І ЗАДАННЕ*

*1. Як развівалася асвета на беларускіх землях у XV і XVI стагоддзях?*

*2. Раскажыце аб жыцці і дзейнасці Францішка Скарыны.*

*3. Да чаго заклікаў Скарына ў прадмовах да друкаваных ім кніг?*

*4. Якое значэнне мела дзейнасць Францішка Скарыны для развіцця асветы і культуры на беларускіх землях?*



 

# „ВОСЕНЬ 67"

Закончыўся Познанскі кірмаш «Восень 67», на якім наш вясковы беластоцкі гандаль зрабіў шмат заказаў. Трэба адразу сказаць, што асаблівых навінак не будзе па той прычыне, што прамысловасць усё яшчэ не паспявае за патрэбамі рынку — за патрэбамі пакупніка. Таму наш унутраны рынак — гэта рынак вытворцы, а не рынак пакупніка: купляем тое, што ёсць, а не тое, чаго хочам. Вядома, гэта датычыць агульнай сітуацыі, а не паасобных асартыментаў тавараў.

Познанскі кірмаш «Восень 67» з'яўляўся юбілейным кірмашом, на якім не толькі паказаны найноўшыя магчымасці прамысловасці ў вырабе тых або іншых асартыментаў тавараў, але таксама прадэманстравана больш шырокія магчымасці куплі добрых тавараў для патрэб, між іншым, і вясковага гандлю. І з гэтых, так сказаць, другіх магчымасцей беластоцкі гандаль карыстаў, як мог.

І так: у выніку падпісаных дагавораў з прамысловымі фірмамі будзе ў гэтым асенне-зімовым сезоне ў дастатковай колькасці тавараў хатняй гаспадаркі, а таксама адзення — мужчынскага і жаночага. На жаль, надалей цяжка будзе з купляю славутых «артыльёнаў», а таксама «казачкаў». Надалей мала керамічных і шкляных вырабаў — усялякай керамічнай і шкляной пасуды. Адчуецца недахоп ваўняных трыкатажаў, асабліва, нізкапрацэнтавых. Заказана тры тысячы штук адзення з саракапрацэнтавай воўны «чэсанковай», шэсць тысяч такіх жа штаноў для хлопчыкаў і т.д. Вядома, гэтыя лікі недастатковыя ў параўнанні да патрэб на такое адзенне, пры вырабе якога ўжываецца артыльёнавую ці стылёнавую сыравіну — матэрыял.

З абутку замала будзе — сандаляў, гдынак, балерынак, паўбоцікаў клееных з гладкім ліцом, а таксама боцікаў, мужчынскіх і жаночых галёшаў, вывротэк і т.п. З дзяніны — бэрэцікаў, ваўняных пальчатак, шапачак па 35 зл., шаляў з аніліны па 270 зл.

Столькі аб спадзяваных недахопах. Аднак неабходна заўважыць, **што гэтыя недахопы будуць значна менш адчувальнымі, чым у мінулыя гады з увагі на большыя, хаця яшчэ недастатковыя лікі закупак такіх тавараў.**

З асноўных тавараў штодзённага ўжытку будуць нават значныя запасы. Для прыкладу можна сказаць, што ў кожнай вясковай краме павінна быць у дастатковай колькасці лімонаў, канцэнтратаў, у тым ліку, памідаровых — не гаворачы аб такіх таварах штодзённага ўжытку, як цукар, прыправы, мука.

Як відаць, успомненыя недахопы, якіх чакаем, маюць характар — скажам — камфартабельны. Сказаў адзін дзядзька, што без «казачкаў» можна жыць. Дзядзькава філасофія моцна знервавала мясцовых элегантак...

На заканчэнне неабходна ведаць, што кожны прамысловы тавар — не толькі халадзільнікі, але нават і туфлі — мае акрэсленую гарантыю. Значыць, калі мы купім туфлі, прадаўшчык павінен інфармаваць пакупніка, які час гарантыі гэтых туфляў. У выпадку таго, калі іх якасць акажацца дрэннай, можна выменяць на новыя — крама абавязана дапамагчы кліенту дабіцца такога абмену. Гаворыцца аб гэтым для прыкладу, бо пакупнік, асабліва той вясковы, наогул рэдка ведае аб сваіх правах да інтэрвенцыі. (С.Я.)

---

О'Донел і О'Брайен сядзелі насупраць новага прэзідэнта і першай лэдзі.

— Канстытуцыя ўводзіць мяне ў Белы дом, але вы абодва вольныя зрабіць выбар, — сказаў ён Кену і Лары. — Я ж хачу прасіць вас застацца і стаць поплеч са мной. Я маю патрэбу ў вас больш, чым вы ва мне, і больш, чым Кенедзі меў патрэбу ў вас.

О'Брайен абурыўся. Ён і без таго быў занадта змучаны. Няўжо нельга было пагаварыць пра гэта пазней, падумаў ён. Але Джонсан, як прыпамінаў пазней О'Брайен, «зусім быў поўны рашучасці ўзяць уладу ў свае рукі».

Пані Джонсан, якая не можа прыпомніць гэту сцэну, лічыць, што «кожны стараўся зрабіць усё магчымае ў гэтай цяжкай сітуацыі». Астатнія ўспаміналі, што яны ўсяляк стараліся стрымаць яе мужа, а ён працягваў напіраць, апанаваны прагай дзейнасці О'Брайен паспрабаваў было апісаць паводзіны следчага і сказаў, што трэба неадкладна ляцець адсюль.

— Не, я гаварыў з міністрам юстыцыі, і ён лічыць, што я павінен прыняць прысягу тут, — адказаў Джонсан. З кожнай мінуты яго спасылка на размову з Бобам Кенедзі гучала ўсё больш пераканаўча. — Я чакаю суддзю, жанчыну, сябра, — сказаў ён і дадаў: — Яе назначыў Кенедзі.

І тут толькі да О'Брайена дайшло: гэты чалавек — прэзідэнт Злучаных Штатаў. Лары перастаў супраціўляцца. Ён заплюшчыў вочы і пачаў маліцца, каб суддзя прыбыла раней за паліцыю.

#### ФАТАГРАФІЯ ДЛЯ ГІСТОРЫІ

Калі Сара Х'юс нарэшце прыбыла, Джонсан спачатку паслаў сваіх памочнікаў прывесці сведак, а затым сам заняўся гэтым.

Зрабіўшы шырокі жэст, ён аб'явіў:

— Калі хто-небудзь хоча прыняць удзел у цырымоніі прысягі, я буду шчаслівы і прыму гэта за гонар.

Але ніхто не кінуўся да яго. Пасажыры, якія ляцелі разам з прэзідэнтам Кенедзі на самалёце «ВПС-1», не пажадалі прымаць удзел у гэтай цырымоніі. Іх можна было зразумець, калі ўлічыць, што было яшчэ толькі 14 гадзін 40 мінут. Хоць забойцу ў гэты час ужо схапілі, але толькі праз 40 мінут па радыё і тэлебачанню паведамілі, што арыштавана «падазроная» асоба. А паколькі пра гэта яшчэ нічога не было вядома, то ўсе з агідай думалі не толькі аб Даласе, але і наогул аб усім штаце Тэхас. І Ліндан Джонсан, самы вядомы з тэхасцаў, стаў мімаволі ахвярай гэтай рэакцыі.




Здымкі Сесіла Стафтана пасля былі яркім сведчаннем «напружанасці на самалёце», як яе пасля назваў Лары О'Брайен. Удзельнікі цырымоніі, якія трапілі ў аб'ектыў Стафтана, былі невялікай групай людзей. Нягледзячы на тое, што фотаапарат быў з шырокавугольным аб'ектывам, у яго не трапіў ні адзін з людзей Кенедзі. Адзіны чалавек з акружэння Кенедзі, доктар Бэрклі, схаваўся за нейчую спіну.

Годфры Макх'ю стаяў навыцяжку ля труны Джона Кенедзі. Кен О'Донел выйшаў у калідор. Лары О'Брайен прымаў удзел у падрыхтоўцы цырымоніі, якой, паводле слоў Ліндана Джонсана, хацеў Боб Кенедзі. Але і ён схаваўся за спіной Сары Х'юс. Такі ж настрой быў і сярод членаў пастаяннага штату прэзідэнта. Усе члены экіпажу паціхеньку адышлі. Суіндэл прыціснуўся тварам да шырокай спіны Роя Келермана. Пасля ён тлумачыў: «Я проста не хацеў трапіць на гэты здымак». Я не належаў да каманды Ліндана Джонсана. Мой прэзідэнт ляжаў у труне».

Гэта было несправядліва ў адносінах да прэзідэнта Джонсана. Для чалавека з такой павышанай чуллівасцю, як у яго, такія паводзіны былі вельмі пакутлівымі. А яшчэ важней было тое, што тым самым праяўлялася няўвага да самой пасады прэзідэнта.

У цэнтры здымка, які Стафтан праявіў праз гадзіну, быў тонкі, скажоны болем профіль пані Кенедзі. Іменна яе ўдзелу ў гэтай цырымоніі дабіваўся чалавек, які прыносіў прысягу. Ён хацеў, каб яна была побач з ім, і ён заявіў пра гэта ўсім, хто мог яго чуць. І нарэшце яна з'явілася, але рашэнне павінна была прыняць яна сама. Яна разумела сімволіку ўлады, неабходнасць захаваць нейкую бачнасць нацыянальнага адзінства пасля катастрофы, і яна прыйшла.

Ні О'Донел, ні О'Брайен не лічылі, што яна павінна прымаць удзел у гэтай цырымоніі. О'Донел усёй душой супраціўляўся гэтаму. Але Джонсан сказаў Сары Х'юс:

— Пачакаем пані Кенедзі. Я хачу, каб яна была тут. Стафтан прапанаваў, каб яна стаяла па адзін бок прэзідэнта, а пані Джонсан — па другі. Джонсан кіўнуў у знак згоды. Ён пачаў ужо праяўляць нецярплівасць. Ён глянуў раз на дзверы спальні, глянуў другі і рашуча сказаў:

— Хвілінку, я прывяду яе.

У гэты момант дзверы адчыніліся, і першая лэдзі, якая аўдавела, выйшла з кабіны. Джонсан прадставіў яе Сары Х'юс і паставіў яе каля сябе з левага боку.

— Вы хочаце, каб мы сталі так? — спытаў ён Стафтана.

Нізкарослы фатограф, па твары якога струменіў пот, даў неабходныя ўказанні.

Хтосьці са сведак, якія стаялі паўкругам, спытаў:

— А біблія?

Наступіла маўчанне, усе глядзелі адзін на аднаго. І тут Джо Эйрс супакоіў іх. Прэзідэнт Кенедзі заўсёды вазіў з сабой біблію. Яна ляжала на століку паміж ложкамі ў яго кабіне.

Біблія была ў вокладцы з цісненай скуры, зверху быў залаты крыж, на ўнутраным баку — вышытыя чорным на чорным фоне ініцыялы «Дж.Ф.К.» Прэзідэнт браў з сабой біблію толькі ў самалёт і чытаў яе на сон надыходзячы.

Сара Х'юс з сумненнем паглядзела на біблію. Яна ўспомніла, што Кенедзі вельмі многа цытаваў яе. Гэта, напэўна, сапраўды яго біблія — гэта ж яго самалёт, — а, значыць, біблія, як відаць, была каталіцкая. Пасля секунднага вагання яна вырашыла, што сыдзе і каталіцкая.

Удзельнікі цырымоніі былі далёка не ва ўзнёслым настроі. Амаль ніхто з іх не чуў ні слова. Стафтан абліваўся потам. Першы здымак не атрымаўся, затвор не спрацаваў. У магільнай цішыні Стафтан пакутліва ўсведаміў, у чым справа. Ён рухаў з боку ў бок рычажок перавода плёнкі, націснуў на спуск і, нарэшце, пачуў выратавальны шчаўчок.

Мэры Галагер назірала за Кенам О'Донелам, які хадзіў узад і ўперад па калідоры каля спальні, як тыгр у клетцы, заціснуўшы рукамі вушы, нібы для таго, каб не чуць слоў прысягі. Кен думаў пра Джэкі: яе выкарыстоўваюць у сваіх мэтах. Лары О'Брайен не зводзіў вачэй з Джэка Валенці. Ён асабліва стараўся, і О'Брайен, назіраючы, як у яго на шыі пульсуе вена, падумаў: ну што ж, цяпер ён зробіць кар'еру. Магсі О'Ліры таксама сачыў за Валенці. Ніколі яшчэ, гаварыў Магсі сам сабе, у кабіне прэзідэнта не было так многа тэхасцаў, і пры гэтым падумаў: наша песенька скончана.

**(Працяг будзе)**

---




«Барадзіну. Тое, што перадала Аня, праўда. Я быў у гестапа. Для таго, каб уцячы, даў згоду на перавярбоўку. Заўтра даю вочную стаўку Ані і Бергу. Прашу санкцыянаваць працягванне работы, якая ўступіла ў рашаючую фазу. Выратаванне Кракава гарантую. Быў, ёсць і астануся бальшавіком. Прашу прыняць даныя на Берга, павядомленыя ім Колі...»

І ў самым канцы: «Штаб гітлераўцаў атрымаў даныя аб рухах на нашым фронце, якія расцэньваюцца Бергам як падрыхтоўка да магчымага наступлення. Прыміце меры. Сувязь спыняю. Выйду сёння ноччу. Віхор.»

Кабцоў пакруціў галавой, хмыкнуў і сказаў:

— Ясная справа... у гэтым выпадку і кіраўніцтва не хісталася б у ацэнцы ўсёй гэтай катавасіі.

— А ты? — спытаў Бародзін.

— Я сябе ад кіраўніцтва не аддзяляю.

— Ну, гэта — твая справа, — паціснуў плячыма Бародзін.

— Менавіта.

— Толькі там, — Бародзін кіўнуў галавой на радыёграму, — людзі.

— Словы, словы, — зморшчыўся Кабцоў, — да чаго ж я не люблю гэтыя самыя вашы высокія словы!.. Людзі. Людзі, разумееш, параджэнне кракадзілаў.

— Гэта добра, што ты класіку шануеш. Толькі за тымі людзьмі — справа. Выратаванне Кракава. І мы з табою за гэту справу адказваем у роўнай меры. Ці не? Я гатовы неадкладна адправіць ім радыёграму: хай ідуць праз фронт на праверку.

— Не пазбаўлена рацыі.

— Вось так, што?

— Вось так. Менавіта.

— Добра. Зараз я складу дзве радыёграмы. Першая: неадкладна пераходзьце лінію фронту. А другую я зраблю інакш: працягвайце працу. Якую ты завізуеш, тую я і адпраўлю. Толькі падшыем да справы абедзве. Добра? Каб калі Кракаў узляціць у паветра, мы з табою давалі тлумачэнне ўдвух. Ну як?

Кабцоў дастаў пачку «Герцагавіны Флор», адкрыў яе, запрапанаваў Бародзіну, і яны ўдвух закурылі, не зводзячы вачэй адзін з другога.

— Слухай, таварыш палкоўнік, — сказаў Кабцоў, глыбока зацягнуўшыся, — а якога чорта, уласна кажучы, мы з табой усю гэту бязглуздзіцу з бюракратыяй разводзім? Нас вучаць давяраць чалавеку. Няўжо ты думаеш, што я магу табе хоць крыху не верыць? Ты, як гаворыцца, гаспадар — пан. Я — зам. Толькі зам. Прымай рашэнне — і ўсё. Як лічыш патрэбным, так і рабі.

— Уцякаеш, значыць...

— Я?

— Не, зайчык.

— Вось дзіўны ты які чалавек. Ты да мяне прыйшоў параіцца, так?

— Так.

— Ну, я табе і раю: рабі так, як табе падказвае твая рэвалюцыйная свядомасць.

— А табе што падказвае твая рэвалюцыйная свядомасць?

— Яна мне падказвае верыць табе.

Бародзін паехаў да Мельнікава. Той выслухаў яго, прачытаў абедзве радыёграмы і напісаў на той, што прапанавала Віхру працягваць працу: «Я — за». Начальнік Упраўлення контрразведкі «Смерша» фронту палкоўнік Мельнікаў».

— Толькі Кабцову свайму пакажы. І перадай яму: палкоўніка Берга, калі ён сапраўды пад тым прозвішчам працаваў у Маскве, што перадаў Віхор, я ведаў. Я з ім пару раз нават піў на прыёмах у іх пасольстве. Па знешняму апісанню твайго Віхра гэта ён. Гэта вельмі перспектыўна. Тут ёсць куды ніткі працягнуць, тут можна ў Берлін ніткі працягнуць або куды далей. Аб будучыні трэба думаць...

*

Апель пад'ехаў да дому Краўха, папрасіў эсэсаўскага шафёра ўступіць яму гэтую дзённую ездку, каб была свабодная ноч.

— Свавольнік, — сказаў эсэсаўскі шафёр, — ах ты свавольнік.

— Я не проста свавольнік, — адказаў бледны Апель, — я свавольнік з салам.

І ён працягнуў эсэсаўцу кавалак сала.

— Мне сапраўды трэба сёння ноччу быць свабодным.

— Добра. Едзь. Скажаш, што мая машына на рамонце.

*

Краўх адчыніў дзверцы, цяжка сеў у аўтамабіль, прывітаўся з Апелем і сказаў:

— У гестапа.

— Слухаюся, пане палкоўнік.

— Што ў вас ззаду за мяшкі?

— Гэта не мяшкі, пане палкоўнік.

— А што ж гэта?

— Там каністры, яны прыкрыты зверху мешкавінай.

— А ў багажніку што вы возіце?

— У багажніку масла і балоны. Я люблю запасацца, пане палкоўнік.

— Гэта добрая рыса, але важна, каб у машыне не смярдзела.

— О, не, не, пане палкоўнік. — Апель паглядзеў на лічыльнік і сказаў:

— Вы не дазволіце мне пад'ехаць да заправачнага пункту?

— Раней вы гэтага не маглі зрабіць?

— Прашу прабачэння, пане палкоўнік, не мог.

— Гэта далёка?

— Не, не, пяць мінут, пане палкоўнік.

— Ну, едзьце ж, — зморшчыўся Краўх. — А дзе мой асабісты шафёр?

— Рамонт, пане палкоўнік.

Машына мінула кантрольны пункт. Эсэсаўцы на КПП выцягнуліся, адказыраўшы Краўху. Той адказаў ім, ледзь прыпадняўшы левую руку. Апусціўшы руку, Краўх адчуў, як нешта ўперлася яму ў патыліцу. Ён павярнуўся. Ззаду сядзеў чалавек у нямецкай ваеннай форме, без пагонаў.

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВЕРТАЛЁТАМ ПА ХВОРАГА

Асталіся толькі непрыемныя ўспаміны аб тых цяжкіх часах на вёсцы, калі да лекара звярталіся сяляне за дапамогаю тады, калі ўжо не было магчымасці ўратаваць жыццё чалавеку. Ні да каго тады на вёску не прыязджала таксі хуткай дапамогі. Калі здарыўся няшчасны выпадак, скалечанага везлі возам да лекараў у горад, бо на вёсцы іх не было. Зусім інакш цяпер. Аб гэтым сведчыць добра нават вось такі прыклад. У час працы пры пілаванні адарваўся кусок шчапы, якая паламала косць каля брыва і моцна пашкодзіла вока для М. Кавальскага. Пазванілі ў Гайнаўку да хуткай дапамогі. Лекар Анатоль Лемберг пабачыў, што неабходная інтэрвенцыя хірурга, пазваніў у Беласток, і адтуль прыляцеў у Гайнаўку **верталёт Чырвонага крыжа** і адвёз хворага ў Беласток. І так, на працягу няпоўнай гадзіны ад выпадку хворы знайшоўся ў Беластоцкай бальніцы.

(мх)

## ДАХАДОВАЯ ЗАБАВА

14-га кастрычніка на Пакрову ў нашу царкву ў Дубічах Царкоўных збіраецца многа народу, у гэтым ліку і моладзі. З ініцыятывы гуртка БГКТ моладзь нашай вёскі выкарыстала гэты дзень да сарганізавання ў мясцовай святліцы дахадовай забавы. Аркестр аплаціў павятовы аддзел БГКТ у Гайнаўцы. Многа дапамог у працы прадстаўнік аддзела Віктар Бура. Заробленыя грошы будуць прызначаны на патрэбы нашага гуртка.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы - Царкоўныя

## НЕ ХАПАЕ «НІВЫ»

Вядома, што многія людзі з'яўляюцца падпісчыкамі «Нівы», і ў гэтым дапамагае ім пошта і пісьманосцы. Але многія ахвотна куплялі б «Ніву» ў газетных кіёсках. Але, на жаль, у кіёсках вельмі мала яе. Адзін экземпляр, а вельмі часта і зусім няма «Нівы» ў кіёску, а таксама і ў клуба-кавярні. У кіёск у Нараўцы прыходзіць толькі 5 экземпляраў. І гэтыя 5 экз. у гэты ж самы дзень раскупоўваюць.

У Гайнаўцы толькі ў некалькіх кіёсках можна дастаць «Ніву». У кіёску ў Дубінах раскупляць «Ніву» за два дні. Пасля нядзелі ўжо яе ніколі няма. У клуба-кавярні ў Нараўцы толькі адзін экземпляр «Нівы», столькі і ў клуба-кавярні ў Скупаве, а ў Ляўкове ў клуба-кавярні «Нівы» зусім няма. А яна павінна быць у кожнай клуба-кавярні і не па адным, а па некалькі экземпляраў. Працаўнікі кіёскаў таксама павінны складаць заяўкі на большую колькасць беларускага часопіса.

**Янка Цялушэцкі**
Ляўкова

---

— Гэта што за фокусы? — спытаў Краўх.

— Гэта не фокусы, — адказаў Коля, сцягваючы з кален мешкавіну, — дзякуйце Богу, для вас вайна закончылася, Краўх.

Берг дакладна паведаміў Віхру размяшчэнне кантрольных пунктаў. Коля дакладна аблічыў час і месца. Апель дакладна вывез Краўха праз той КПП, які вёў да Сівага — на канспірацыйную яўку ў Кышліцах...

*

Краўх поўзаў па падлозе цёмнага склепа, куды яго прывезлі, і крычаў:

— Я інжынер, я інжынер, а не ваенны! Не забівайце мяне, я малю вас, не забівайце мяне!

— Цішэй, калі ласка, — адказаў Коля. — Вас ніхто не збіраецца забіваць. Вы будзеце жыць, калі перадасце мне схему міміравання Кракава, спосабы знішчэння горада, час і магчымасць прадухілення выбуху.

Як і параіў Берг, група прыкрыцця з разведкі Сівага адагнала машыну Апеля на прасёлак і там імітавала выбух супрацьтанкавай міны. А паколькі ў багажніку ў Апеля было пяць каністраў бензіну, машына запалілася, быццам сухі хвораст. А ў ёй — трупы двух здраднікаў з паліцыі — растраляных за дзень да гэтага па выкрашэнню падполля. Значыць, алібі было захавана поўнае; гестапа не перапалохаецца і не пачне ліхаманкава мяняць схему прыводаў для разбурэння Кракава — падстаў для такой падстрахоўкі маскарад са знішчанай машынай Краўха не даваў.

Так, у кожным выпадку, лічыў Віхор.

(Працяг будзе)

## УСПАМІНАЮЦЦА ШКОЛЬНЫЯ ГАДЫ

Часта ўспамінаюцца мне мінулыя дні, дні маёй вучобы ў час зусім маладзенькай савецкай улады.

Летам 1915 года маі бацькі, як бежанцы, апынуліся ў горадзе Арол. Тут у Арле я вучылася ў «Адзінай Трудавой Савецкай школе II ступені». Добра памятаю, як нам у гэтай школе раздавалі чырвоныя сцяжкі, чырвоныя банты, і мы ў паходзе заўсёды спявалі «Інтэрнацыянал» і «Смела таварышы ў ногу» У 1921 годзе бацькі мае вярнуліся на сваю зямлю. І ўжо ў панскай Польшчы не магла я вучыцца. Вось таму вельмі моцна шкадавала, што бацькі не засталіся ў Арле. Зараз я пенсіянерка.

**Н. Вяршкова**
Беласток

## ШТО МЯНЕ КРАНАЕ

Я стары ўжо, але да глыбіні сэрца чуюся беларусам. Нічога мяне так не кранае за сэрца, як беларуская проза і паэзія.

Таму, хоць маю ўжо 60 год, задумаў прыняць удзел у чытальніцкім конкурсе.

Адно мяне непакоіць. Наша вёска ў большасці заселена беларусамі, аднак няма каму падтрымаць беларускага слова і паэзію. Няма ў нашай школе даўно ўжо ні аднаго настаўніка, які ведаў бы сам і любіў бы беларускую мову. У школе роднай мовы не вучаць, і таму я, наглядаючы за дзяцьмі, бачу, як у хуткім тэмпе забываюць яны беларускую мову. На вёсцы найбольш можа зрабіць настаўнік, і таму на вёскі Дуброўшчыны трэба звярнуць асаблівую ўвагу для ГП БГКТ.

**Андрэй Мазалеўскі**
Хільмоны

## ПАСЛУГІ ПОШТЫ

У Гайнаўскім павеце ёсць радыёфанізаваных 88 вёсак. 84 вёсак маюць тэлефоны. Радыёпрыёмнікаў на Гайнаўшчыне налічваецца 3970, а тэлевізараў — 1601, у гэтым 523 тэлевізары на вёсках. Паслугі паштова-тэлекамунікацыйныя за некалькі гадоў значна пашырацца. Будзе разбудавана гайнаўская пошта і тэлефонная сетка. У 1971 годзе будзе ўжо працаваць у Гайнаўцы аўтаматычная цэнтраля да 100 нумараў. Будзе можна ў Беластоку набраць патрэбны нумар тэлефона і адразу спалучыцца з Гайнаўкаю, і наадварот. (мх)

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка!

Год часу як я пазнаёміўся з Марысяй. Марыся жыве на вёсцы. Я працаваў перад войскам у горадзе, а цяпер адбываю вайсковую службу. За пару дзён выходжу з войска, мая служба ўжо скончылася. Мы з Марысяй перапісваліся ўвесь час, час ад часу я прыязджаў у водпуск да Марысі. Месяц таму назад Марыся мне не адпісала на маё пісьмо. Не ведаю чаму. Я паслаў другое з запытаннем, але і на гэтае нічога не атрымаў. Аб Марысі нічога не мог даведацца, бо яна з іншай вёскі, і ні мае бацькі, ні калегі нічога аб ёй не ведаюць. Я перастаў пісаць, хоць цэлы час думаю аб ёй. Кахаю Марысю і хацеў бы з ёю ажаніцца. Яна таксама гаварыла, што мяне кахае і пачакае, пакуль я выйду з войска. Цяпер мае мары маглі б здзейсніцца, але Марыся адышла ад мяне. Чаму? Што мне рабіць? Ці паехаць да Марысі ў другую нядзелю, ці не? Хацеў бы ведаць, якая прычына, а ўнутры штосьці падбухторвае, каб не ехаць, бо брыдка накідацца дзяўчыне сваёй асобай. Парай, Сэрцайка.

«Вайсковы»

Дарагі «Вайсковы»!

Я не лічу, што паездка да Марысі абазначае, як ты пішаш, «накідацца». Ты абавязаны даведацца аб прычыне паводзін Марысі. Не можна без высвятлення прычыны асуджаць яе. Таму раю табе як найхутчэй паехаць да Марысі пагаварыць з ёю. А тады будзеш ужо ведаць, што рабіць далей.

Сэрцайка

## НАРАЎКА

Вось такія сметнікі мае школа ў Нараўцы (Гайнаўскі пав.) Нічога тады дзіўнага, што знікла папера са школьнага пляца. Такія сметнікі на ўзор сядлецкіх зрабіў жыхар в. Плянта к/Нараўкі, Янка Янель.

Кіно «Лес»

Тэкст і фота: Я. Ц.

## НЯМА КАМУ ДАГЛЯДАЦЬ

Меліярацыйны роў, які праходзіць праз лугі і няўгоддзі Лучанска-Слабоцкага сервітуту, выкапаны быў у 1958 годзе. Паабапал рова сяляне Лукі і Слабодкі пасвілі каровы. Кожную весну і восень грамадскім чынам папраўлялі прынішчаныя берагі рова. Роў выглядаў тады як быццам бы толькі што выкапаны. Як у 1966 годзе сарганізавалася водная суполка ў Ляшуках, упарадкаванне рова даверылі пастаянным працаўнікам меліярацыйных работ, а сяляне пачалі плаціць за гэта па 100 зл. ад гектара. І вось 1967 год канчаецца, а роў толькі ўсяго адзін раз быў чышчаны. Зараз выглядае ён як бы брод зарослы зеллем і травою, а берагі паразмакалі і стала сапраўдная колішняя дрыгва. Вось што за бесталкоўшчына; грошы ўзялі, а рова даглядзець і паправіць прынішчаныя месцы няма каму.

«Чарот»

## ЗА АХОВУ ПРЫРОДЫ

У сумленнага чалавека кожная гульня мае свае культурныя нормы. Не менш патрэба культуры і для паляўнічага. Тым больш, што яму дазваляецца страляць да птушак і звяроў, якія прыносяць карысць роднай прыродзе. Адсюль ідуць і клопаты. Адна з карыснейшых птушак селяніну, курапатка, не ўмее абараніцца перад паляўнічымі. Паляўнічыя з'яўляюцца такімі лоўкімі, што за поўдня ўдагонкі за статкам гэтых птушак, здолеюць выцерабіць да апошняй.

Курапаткі на нашых палях маюць поўна работы. Каларадскі жук ахапіў усе нашыя палеткі з бульбай. Курапаткам, якія асталіся зімаваць у нас, трэба на гэты суровы час прыйсці з дапамогай. Паляўнічым гурткам варта падумаць пра ежу для іх. Але толькі не такую, як гэта бывала раней. Жыхары вёскі Зубава, Кожына, Бельскага павета, наракаюць на кіраўніцтва паляўнічага гуртка ў Дзяніскáх і Гайнаўцы, што на палях рассяваюць пустазелле. Кормяць курапатак і зайцаў апошнім смеццем з току. Паляўнічыя зараз рыхтуюцца да палявання на зайцаў і іншых звяроў. Варта падумаць і пра тых птушак і звяроў, якія застануцца ў нас зімаваць.

К. С.
Бельскі павет

## СЫРАДЭЛЯ

Яшчэ да гэтага часу ў многіх вёсках недаацэньваюць гаспадары сырадэлі, як корму для быдла. Асабліва той сырадэлі, якая вясною ўсяваецца ў жыта і якая восенню з'яўляецца зялёным высакаякасным кормам. Да нядаўна сяляне мала сеялі сырадэлі і ў Новай Волі ў Беластоцкім павеце. Але зараз амаль кожны гаспадар шмат сее гэтай культуры і амаль да марозаў пасе там каровы. Гэта вельмі выгадна, таму што на гэтым куску зямлі і жыта збярэцца, і на цэлую восень ёсць дзе ўвязваць каровы.

(мх)

## КІНО

Праграма на 7—12.XI.1967 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
,,Dwie sroki za ogon'' (radz.), 7—8. ,,Burzliwa młodość'' (radz.), 9—10. ,,Chleb i róże'' (radz.), 11—12.

**Кляшчэлі**
,,Gdzie jesteś Maksymie'' (radz.), 7—8. ,,Dzieci Don Kichota'' (radz.), 9—10. ,,Pancernik Potiomkin'' (radz.), 11—12.

**Дубіны**
,,Wołga-Wołga'' (radz.), ,,Nieśmiały w akcji'' (radz.), 8—12.

**Нараўка**
,,Kozacy'' (radz.), ,,Piekło i niebo'' (radz.), 8—12

**Нарва**
,,Tajemnica zielonego boru'' (radz.), ,,Sąd'' (radz.), 8—12.

**Чыжы**
,,Bariera ognia'' (radz.), ,,Kontrybucja'' (radz.), 8—12.

**Дубічы Царкоўныя**
,,Ściana czarownic'' (radz.), ,,Zwyczajny faszyzm'' (radz.), 8—12.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
,,W kręgu podejrzeń'' (radz.), ,,Tajemnica tajgi'' (radz.), 8—12.

**Орля**
,,Czas rozłąki'' (radz.), ,,Kontrybucja'' (radz.), 8—12.

**Райск**
,,Porzucona'' (radz.), ,,Wódz czerwonoskórych'' (radz.), 8—12.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
,,Na pokładzie stanął kapitan'' (radz.), ,,Dzieci Don Kichota'' (radz.), 8—12.

**Міхалова**
,,Miasto bez wody'' (radz.), 7—8. ,,Gdzie jesteś Maksymie'' (radz.), 9—10. ,,Iwan Groźny'' I s. (radz.), 11—12.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
,,Człowiek, który wątpi'' (radz.), 7—8. ,,Jutro Meksyk'' (radz.), 9—10. ,,Gwiaździsty bilet'' (radz.), 11—12.

**Шудзялава**
,,Kontrybucja'' (radz.), ,,Wołga-Wołga'' (radz.), 8—12.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
,,Dwie sroki za ogon'' (radz.), ,,Dom na rozstajach'' (radz.), 8—12.

**Новы Двор**
,,Kraksa'' (radz.), ,,Cierpkie głogi'' (radz.), 11—12.

**Ліпск**
,,Gdy drzewa były duże'' (radz.), ,,Dotknięcie nocy'' (radz.), 11—12.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3. NAKŁAD 7627

## А. Кур'ян.

# ЗАБАВА

Дзед Антось і бабка Ганна справілі залатое вяселле. Калі адзвінелі чаркі і замоўклі тосты, а шматлікія госці пакінулі хату, шчаслівая пара прысела на канапу і аддалася салодкім успамінам.

— Пажылі мы з табою!.. — задаволена прагудзеў дзед Антось, пагладжваючы рыжую бараду. — І не абы як, а душа ў душу. Толькі, праўда, рэўнавала ты мяне, Ганна, да кожнага слупа...

— Ой, не смяшы ты людзей, Антось! — занарэвілася бабка. — Не выдумляй. Цябе і рэўнаваць не было за што. Мяне ж, ты, нябось, кахаў?

— Дзіва што!

— З жонкамі чужымі не забаўляўся?

— Гм!.. — сумеўся дзед. — Як табе сказаць... Быў такі грэх год таму назад. З маладзіцаю адной я...

— З маладзіцаю? — жахнулася бабка. — Год назад? І ты пайшоў на гэта!..

— Ды я проста так, дзеля забавы. Блуд з яе выганяў.

— О, божа літасцівы! — сашчапіла бабка рукі.

— Да чаго чалавек дажыўся! — І грозна дадала: — Расказвай, пень стары, як і што было, а то барада шматкамі ляцець будзе!

Дзед Антось пакорна схіліў галаву і, усміхнуўшыся ў пышныя вусы, пачаў:

— Было гэта так. Сяджу я аднойчы каля хаты, а да мяне маладзіца незнаёмая падбягае. Прыгожая такая. Ну, проста кроў з малаком.

«Скажы мне, дзеду, — шчабеча яна, — дзе гэта Амелька Павук жыве? Ну, гэты шаптун ваш...»

Я і рашыў пазабаўляцца крыху з ёю.

«Амелька Павук, — кажу, — гэта я. Што табе трэба, дзіця маё?»

«Бяда ў мяне, дзеду, — уздыхае яна і трэ хусткаю сухія вочы. — З мужам у мяне нелады. Сварыцца — не дай божа. Іржавай пілкай мяне абзывае! І так кожны дзень... Дык мне адна бабка да вас параіла звярнуцца...»

Пасядзеў я, памаўчаў, потым пайшоў у хату, наліў у бутэлькі чаю і выношу на двор.

«Гэта, дзіця маё, чароўная вада, — кажу. — Вельмі добра памагае. Калі пачнецца сварка, ты непрыкметна хлёбні гэтай вадзічкі і трымай яе ў роце да таго часу, пакуль чары не падзейнічаюць на мужа, і ён не замоўкне. Праз месяц, дзіця маё, прыйдзеш да мяне і раскажаш, як твае справы».

І што ты думаеш, Ганна? Прыходзіць яна праз месяц і нарадавацца не можа.

«Памагло! — кажа. — Муж залатым чалавекам стаў. Хваліць мяне на кожным кроку. Я вам, дзеду, за лекі сала прынесла...»

«Няма за што, — кажу я маладзіцы. — Гэта быў звычайны чаёк. І ўся яго сіла была ў тым, што ты брала яго ў рот і маўчала. А яно ж вядома: калі жонка не меншць без толку языком, то і муж спакойны будзе. І дзе толькі твая галава, маладзіца! — кажу я, набіваючы люльку. — У нашым сяле ўжо даўно няма такога дурня, які б шаптунам верыў. Ды і шаптуна таго ў нас няма ўжо, з паўгода як памёр.

Раскурыў я люльку, зірнуў туды, дзе стаяла маладзіца, а яе і след ужо прастыў. Вось забава была дык забава!..

— І гэта ўсё? — страпянулася бабка Ганна.

— Усё, — кіўнуў галавою дзед.

— Ах, каб цябе качкі! — з палёгкай уздыхнула бабка. — Напужаў толькі, корч стары...

СЁННЯ ЎСЯ «НІЎКА» ПРЫСВЕЧАНА САВЕЦКАМУ ГУМАРУ.

# НІЎКА



Перадзімовыя трэніроўкі.

### ЛІСА - МОДНІЦА

Ліска модніцай была,
Туфлі — шпількі нажыла.
Носік кожны — шыла,
Глянуць люба-міла.
Кпіп яна пачула шмат
Ад зайчых і зайчанят,
Жартавалі ўсе з Ліскі —
І бабрыха, і ільвіца...
Хоць Лісе і назалялі,
Хоць Ліса і з мазалямі,
Але Леў сказаў: — Ліса-а-а!
І загрывак прычасаў.

**Станіслаў Шушкевіч**

### СВОЕЧАСОВАЯ ПАРАДА

На розных мовах твор твой
выдаваўся,
І ты зусім асалавеў ад шчасця.
Адно хацелася б, каб ты
не забываўся
На мову родную яго таксама
перакласці.

(З армянскага)

### З'ЕЎ ПА ДАРОЗЕ

Маці адправіла маленькага сына ў магазін па цукеркі. Калі ён прынёс, яна, раззлаваная, сама пабегла ў магазін.

— Я прасіла сына купіць кілаграм цукерак, а ён прынёс толькі паўкіло. Ці ў вас вагі няспраўныя, ці вы яго ашукалі?

— Не, вагі паказваюць правільна, але ж вы не ўзважвалі свайго сына.

### ЁСЦЬ РОЗНІЦА

Муж сустракае на вакзале жонку з адпачынку:

— Ты нават не абдымаеш мяне, — скардзіцца тая. — Бачыш, які ўважлівы вунь той мужчына да сваёй жонкі?

— Але ж яна, відаць, адзязджае.

### НЕ ЗРАЗУМЕЎ

— Я ўсё саромелася табе сказаць, любы мой, што нас хутка будзе трое.

— О, вельмі добра!

— Я рада, што ты гэта так прыймаеш. Я ўжо напісала ёй. Мама хутка прыедзе.

### ДЗЕ НАПІЦЦА?

Пасажыр да праваднікa поезда:

— Паслухайце, дзе ў вас можна напіцца?

— На наступнай станцыі, — ветліва адказаў той.

Так адмяняюцца нават канчатковыя рашэнні.

### РУСКІЯ НАРОДНЫЯ ПРЫКАЗКІ

Кума да кумы хоць у рэшаце, але прыплыве.

Добра на печы араць, але заварочваць крута.

Спяваць добра разам, а гаварыць паасобку.

Не пастой за валасок, дык і барады не стане.

Людзі — араць, а ён — рукамі махаць.

Хто ветрам служыць, таму дымам плоціць.

Ілжэ, як бліны пячэ: толькі шыпіць.

Не печ корміць, а рукі.



Здарэнне з дырэктарам завода дымаўлоўнікаў.

### ВАКОЛ СЛАВУТАСЦЕЙ

Астроўскі і Пісемскі прыехалі ў Парыж. Іх павінен быў сустрэць Грыгаровіч, але спазніўся.

— Аляксандр Мікалаевіч, найміце фурмана, — сказаў Пісемскі. — Не начаваць жа нам на вакзале.

Астроўскі пакачаў галавой.

— Ах, які ж ты. Аляксей Феафілавіч, нездагадлівы.

— Чаму?

— Дык як жа я буду размаўляць з фурманам на французскай мове, калі ў мяне абедзве рукі заняты чамаданамі.

### ДОБРЫ НАСТРОЙ

— Чаму вы не былі на апошняй лекцыі?

— Выбачайце, прафесар, я не ведаў, што яна апошняя.



Ці не зачаста мы з вамі гутарым?

— Нічога, каб толькі аб гэтым не даведаўся мой нарачоны...

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Валі. Крысі і Янка з Беластока змяшчаем песню п.з.

# TBILISO

Muzyka R. Łagidze                Słowa polskie: Ola Obarska



I.

Jeżeli był na świecie raj, to był napewno właśnie tam,
tak wiele barwnych wspomnień z Gruzji mam —
Na twarzy został słońca ślad, ach jaki piękny jest tam świat
oddałam serce, w zamian wzięłam tę piosenkę.

Tbiliso urzekło mnie urodą swą,
szczyty gór skąpane w blaskach słońca,
w Tbiliso gałęzie kwitną cały rok, wracam właśnie co noc do Tbiliso.

II.

Gdy mrok zapada w Tbiliso, światełka się wokoło pną
ku pięknej górze Mtacminda, do gwiazd.
Zbłądziłam kiedyś w światłach tych i nie wiedziałam, które z nich
do domu wiodą mnie, a które w mleczną drogę...

Tbiliso urzekło mnie...

Gdy miasto moje tonie w mgle, gdy zimno jest, gdy pruszy śnieg,
marzenia moje, jak rakiety mkną.
Wystarczy chwila albo dwie, marzenia osiągają cel
nie na Księżycu, nie na Marsie, ani Wenus...

Tbiliso urzekło mnie...

# Курёзы

У часе паліцэйскай аблавы ў Боне затрыманы нейкі падазроны тып.

— Прозвішча? — пытае паліцэйскі камісар.

— Мюлер, — адказвае затрыманы.

— Кінь дурня строіць. Усе вы называеце сябе Мюлерамі. Мяне не правядзеш. Скажы сваё сапраўднае імя і прозвішча.

— У такім выпадку пішыце: Іоган Вольфганг фон Гётэ.

— Чаму ж адразу не сказалі. Мяне не правядзеш.

*

У збройны магазін у Тэхасе ўваходзіць пакупнік і просіць прадаць яму рэвальвер.

— Для якой мэты вы яго купляеце? — пытае прадаўшчык.

— Я хачу застраліць свайго суседа.

— Калі вы нічога не маеце супраць, я хачу даць вам раду: пачакайце з гэтым да заўтра.

— Чаму?

— Сёння вы раздражнёны і можаце прамахнуцца

*

Жонка Юханеса памерла. Труну неслі ў царкву для адспявання і задзелі за дзверы. Старая прачнулася. Яна проста спала летаргічным сном. Праз нейкі час старая Юханеса зноў памерла. Калі труну неслі ў царкву, Юханес сказаў нясучым труну:

— Асцярожней. Вы памятаеце, што здарылася мінулым разам?

*

Дзяржаўны дзеяч звяртаецца да свайго калегі:

— Ведаеце, сэр мне прапануюць пяць тысяч фунтаў стэрлінгаў, калі я падам у адстаўку. Што вы мне параіце?

— Не спяшайцеся. Упэўнены, што вам запрапануюць больш.




Пры любой акуле існуе рыба — сакратар.